Нахай жыве саюз рабочых і сялян!

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ"

№ 10 (30) — КАСТРЫЧНІК 1928 г. — № 10 (30)



Чыгуначнікі ў вёоцы.

## Восень

Максім Лужанін

Дні прабеглі па іржэўніку,
Па аўсянішчы пустым.
Ціха падаюць лісты,
Быццам хтосьці сумны жэніцца.

Бо цяпер над прыгуменьнямі
А бзываюцца цапы,
Узьлятае тонкі пыл
Над вясёлымі праменьнямі.

Павуцінnасьць. Сьвежасьць. Сонечнасьць
Сохнуць лозы ля ракі.
Не сьпяваць-муць пастухі,
Як павеюць ветры з поўначы.

Сьцюжа белымі дакорамі
Надыходзіць нацянькі,
А здалёку цягнікі
Зіхацяць хадою скораю.

# Пасярэдзіне дарогі

## СЫМОН БАРАНАЎ

... Яна сядзела каля вогнішча, апчарэпіўшы рукамі свае калені, і я падыйшоў да яе.

Я сказаў ёй «Дзень добры!» і яна мне кіўнула галавою, сама нават не зварухнуўшыся.

Пра што я мог гаварыць з незнаёмым мне чалавекам, сустрэўшыся пасярод дарогі?

Я тагды глянуў у яе твар, каб можна было пайсьці далей. Затым заглянуў, што можа ніколі не давядзецца спаткацца з гэтым чалавекам, бачыць гэты твар.

«Ня можа быць...—кальнула думка,—ня можа»...—сутрымаў я словы, якія хацелі зьляцець з маіх вуснаў.

Але гэта было... Гэта была яна, знаёмая мне цётка Зэнка—пазнаў я ў яе твары.

... Адтуль была яна, з-за мяжы. Няўжо ёй зусім пашэнціла прыехаць сюды?

***

Зэнка жыла цераз двор ад нашай хаты. Я быў падросткам і кожны дзень бачыў, хоць адну хвіліну, у хаце яе старога сьвёкра. Пайбольш бываў я ў іх зімовымі вечарамі. Я вельмі сябраваў з яе сынам Стасем.

Калі я прыходзіў да Стася ён вельмі быў рад. Мы—дзеці, а разумелі тое, што адбываецца кожную хвіліну, кожны малюсенькі час адбываецца, тое разумелі, што завецца «пройдзеным і незваротным».

Калі я захадзіў да Стася ў зімовыя вечары—памятую, як цяпер—дзед, Зэнчын сьвёкар, казаў сам сабе пад нос:

«Скрыпацца абы... неяк гугнячы ў нос, казаў ён.—Выскрыпваць хату абы. І так вызеўрала хата за дзень».

І я слухаў усё гэта і маўчаў. Станавіўся каля печы, каля палка, выцягваў па каліўцу воўну з бацькавай лампоўкі і маўчаў. У мяне на сэрцы быў вялікі жаль. Я не крыўдаваў на Зэнчынага сьвёкра за тое, што казаў ён. Не. Мне так от абыходзіла сэрца нейкім пякучым жалем. Мне толькі адно было ў маіх думках: «За што ён мяне... за што ня любіць? Што я яму такое зрабіў, ну што?» І ў мяне на вочы набягалі сьлёзы.

Я стаяў тады і бачыў, як Зэнка шыбчэй круціла калаўротак. Бачыў, як спрытней бегала «лісіца», водзячы за нос калаўротны шпень. А Стась з палка ў гэты час шаптаў мне над вухам: «Няхай сабе кажа. Ён—стары, таму так і кажа. Лезь сюды. Да мяне, на палок». І радасьць ад усяго гэтага перамагла над усім прыкрым.

А калі я ішоў дадому, Зэнка заўсёды (гэта—зімою) праводзіла мяне на двор. Яна адчыняла і зачыняла за мною набраклыя дзьверы, для якіх не хапала яшчэ маёй сілы. Праводзячы, Зэнка казала:

— Прыходзь, Сымонка, прыходзь заўтра. Стась вельмі цябе любіць.

Ціхім і далікатным казала голасам. Я любіў гэты цёплы, сьвежы і не фальшывы голас; ён песьціў мяне, і маё пачуцьцё да краёў напаўнялася мяккаю радасьцю.

— Заўтра дзеда ня будзе дома: у лес паедзе,—асобна, з сакрэтам ужо, казала яна, зачыняючы дзьверы.—Прыходзь.

Я ішоў дадому з думкаю пры гэтую добрую жанчыну і пра гэтага дрэннага старога чалавека.

Стасяў бацька пакінуў яго чатырохгадовым хлопчыкам—памёр яго бацька. Стась, як скрозь сон, памятуе свайго бацьку. Асабліва захаваўся ў яго памяці той час, калі ляжаў яго бацька пасярэдзіне хаты, на састаўленых тапчанох.

— Татка!—будзіў Стась, седзячы
я бацькавае галавы.—Уставай, тат-
Унь мама плача, дзед... уставай...
Дзед плакаў. Як плакаў дзед па свай-
адзінаму сыну!

*
* *

Памятую бязьлітасны дзень, пасьля
алькіх год. Гэта калі мы дзяцюкамі,
рслымі хлопцамі былі.
Вайна!
Нас мобілізавалі, абучалі нас цэлы ме-
. А, навучыўшы, як адчыняць затвор
трэльбе і як, адчыніўшы яго, патроны
кладаць, а потым ужо—страляць,—
пасьля ўсяго гэтага прывезьлі на
а чалавечае сьмерці.
Ам мы разам увесь час былі... аж да
тога памятнага дню. І сапраўды, я і
ер не магу забыцца на гэты дзень.
нае быць, уяўляю тыя самыя акопы,
дою жвірыстаю вадою, якая займае
вышэй костак ног. А перад акопамі
жаваны калючы дрот. Куды ня кі-
вокам, усюды дрот, дрот калючы.
да ў дрот.
к другое, так і першае з іх—золкае,
кае і вострае, аж да стуку зубоў,
ае і халоднае.
над галовамі—дзвынкаюць «здра-
бомкаюць «авадні-мухі».
т мы стаім з Стасем каля бліндажа.
тут роўна з халяўкамі нашых ча-
ў. Мы абаперліся каля акопнае
ы і пераступаем з нагі на нагу.
Мне здаецца, што мяне застрэляць
скалечаць.
Кінь, Стась... Што ты?
е Стась тады ня чуў, а казаў далей:
Няхай-бы не застрэлілі. Ведаеш,
, як гэта хочацца жыць... Мы-ж
мя гэтакія.
Не, не для сябе нават, для маёй
хочацца жыць, для ўсіх...
назаўсёды, на ўсё маё жыцьцё за-
маваў яго словы.
ады суцяшаў яго:

— А ты ня бойся, дык і не застрэ-
ляць.

Але адчуўшы ў гэты момант раптоўны
страх перад сьмерцю, адчуўшы тое, што
і мяне таксама могуць застрэліць, я падбадзёрваў ізноў Стася, а яшчэ больш—сам сваё адчуваньне.

— Што гэта канешна цябе павінны
застрэліць? Не канешна-ж цябе, альбо...

А ад вады, ад золкай вады, здаецца,
аблазіла на нагах скура...

Больш я ад таго нічога ня памятаваў:
мне на вочы нацягнулася чорная заслона
—хмара. Ходарам захадзіў наш акоп
ува ўсе бакі. Захадзіў, скрывіўся і стаў
на адным месцы—рубам, наўскасяк.
Так і застаўся ён стаяць, акамянелы, на
адным месцы, у маім ваччу...

... А калі я расплюшчыў вочы, дык перада мною—белы хвартух стаяў. Я хацеў прыпомніць нешта, але адчую вялікую боль. Як голкамі-шарпаткамі, пранізвала боль мне скрозь пашчэнку і аж у самыя мазгі, у лоб.

Я быў паранены ашчэпкам і праляжаў у лячэбніцы чатыры месяцы. З таго от часу пра Стася я нічога ня ведаў і ня чуў.

II.

— Адкуль вы, цётка Зэнка, адкуль вы ўзяліся?—запытаўся я, ступіўшы крокам бліжэй да вогнішча.—Не пазналі?

І яна расчапіла рукі, аслабаніла свае калені.

— Не...—паглядзела яна, абапіраючыся рукамі аб зямлю.—А хто-ж вы? Адкуль вы мяне ведаеце?

І я сказаў.

Я чакаў на яе твары зьдзіўленьня, я чакаў нечага радаснага, якое бывае ў чалавека пры спатканьні з добра знаёмымі блізкімі людзьмі. Я чакаў і... я ўбачыў у выразе яе твару халодную бязуважнасьць.

— Дзе-ж цяпер Стась?—адчуўшы перад маім запытаньнем страх, спытаўся я.—Дзе ён цяпер?

Але яна не адразу адказала. Яна перш адарвала ад мяне свой позірк і акінула ім на ўсё. У мяне яшчэ больш вырас страх за Стасева жыцьцё, за жыцьцё гэтага лепшага майго таварыша.

— Няма больш Стася,—выказала яна, ня гледзячы на мяне.—Замучылі Стася, памёр. У вастрозе, у Лукішках...

Цьвёрда выказала і да канца. Але больш нічога не магла сказаць. Я і ня пытаўся больш. Ня трэба было. За адзін раз—адчуў усё у гэтых словах.

Я сеў цяпер каля вогнішча і, згробшы пальцамі пацяруху-гальлё, кінуў яе цэлаю жменяю на агонь. Пацяруха затрашчэла дробным трэскам, пачала загарвацца жоўтымі агоньчыкамі.

Наўкола было ціха і цёпла. Стаяў дзень позьняй восені, цёплай і ціхай восені.

У невядомую далеч паўзло і чаплялася, чаплялася і паўзло белае павучыньне. Заблытвалася, абрывалася... абрывалася, часамі камякамі асядала, курчылася абарванымі белымі струнамі.

— Ня трэба плакаць,—заўважыў я—капіліся па яе твары ціхія сьлёзы.— Усё-роўна-ж...—хацеў сутрымаць жаль, вялікі жаль матчынага сэрца, хацеў, але... але слова маё было мяккім...

Гальлё часамі патрэсквала, і я адчуваў у гэтым трэску далёкі-далёкі трэск мінулага.

***

Я палажыў на агонь ахапак гальля. Зэнка, грэючы растапыраныя пальц сваіх рук, казала далей:

— Бінта ня было пры ім. Дык каб су няць кроў, казаў ён, ён абвёрткаю завяз цеў тваю рану. А потым от, пазваўш яшчэ аднаго-двух, яны перанесьлі цяб ў бліндаж. З таго часу і ня бачыў, не су стракаў ён, мой сынок, цябе.

Я глядзеў на яе худы твар, на яе г тыя растапыраныя худыя жылістыя рук на яе трапты, з-пад якіх прасьвечвала замурзанае цела. Я глядзеў, і ў мяне усяго гэтага расло абурэньне на таго, х ўсё гэта стварыў.

«Якое меў ён права ўтвараць у гэта?»

Я не знаходзіў адказу, а яна каза далей.

— Стась хутка захварэў у акопах запаленьне. А праляжаўшы ў шпіта два месяцы, папраўляючыся ўжо,— тыфус захварэў. У шпіталі, мусіць, браўся... А потым на папраўку прыех дадому. Тады, хутка от, і немцы прыш а потым і яны...—Бедненькі мой сын

— Куды-ж вы ідзіцё?

Яна маўчала. Яна заверчвала бо падэшву сваёй нагі, якая была праб

— Пойдзем!—сказаў я, падаючы руку і дапамагаючы ёй падняцца з ві готнае зямлі.

# Лук'ян--капярацыйскі сабака

**ЛУКАШ КАЛЮГА**

Перш-на-перш Лук'ян не прыбытковы чалавек для капярацыі. Бо што найбольш патрэбна даросламу людзкаму чалавеку? Тытун. Некалі ў заваруішныя гады кожны гаспадар сеяў сам сабе гэтага шчасьця градку, а хто й дзьве ў вагародчыку за хатаю. Купленага, пачковага тытуну тады й на лякарства ня было. Каб, скажам, пры-сьмерці ляжаў чалавек і так заманулася яму гэт зельля, што абы пацягнуў разы два, і паправіўся-б,—і то-б ня далі рату Кончыўся-б чалавек, пачковага стар жымскага тытуну не папрабаваў Але-ж няма такіх дурных людзей сьвеце. Зажадаць таго, чаго нідзе не стараешся, можна хіба толькі пры сь ці. А так людзі да таго ў самаро

Галоўлітбел № 25251 Менск, 2 друк. БДВ

-цягнуліся, што й смак да яго знашоўся і на гатункі сталі дзяліць. А ў каго добра рос, хто ўмеў яго даглядзець, у пару палівачь патрапляў, дык той упэўнена казаў, што ніякі «станболь» не паправіць, калі ўмеючы скрышыць. Быў самаросьлік паводле ўсякага густу. Хто вельмі моцны ўважае, той сабе «бесарабскага» насеньня пытаўся ў людзей, каб расстаранца. Каму слабейшы па душы, той сеяў «мультан». А хто зусім на смаку з тытуна ня знаецца, дык у таго рос абыякі, якога ад людзей папаў насеньня.

Потым—на табе! Зьявіўся куплёны тытун на століках у мястэчку. Трохі пакаўшы, Даўнарэвіч (крамнік наш даўнейшы) прывозіць пачкаў дваццаць таннай павіны.

Аж людзям дзіва было. Купляць спярша ўсё не адважваліся. Казалі, што тухлы, заплесьнявеў, усю вайну недзэ праляжаўшы. Ня верылася, бачыце, што цяперашнім сьветам умеюць рабіць пачковыя карашкі. Калі хто й купляў іх, дык толькі каб пераканацца на смаку, папрабаваць самому й суседу па...а-ніца.

Ды й пераканаліся людзі, што:

— Патом, як сабе ні было, а ні свайму варыш.

— Куплёны! што й казаць.

Уляглі людзі ў карашкі. Найбольшы з прыбытак капяраціву.

Дык вось загэтым не прыбытковы чалавек наш Лук'ян, для капярацыі. І даваецца туды больш за каго другога. Карашкоў ніколі ня купляе, а толькі перу.

Бывае, што прывязуць у краму сьвежага тавару. Людзям—як хто наказжа ты. Чорт іх ведае! І з вёсак, і з пасёлкаў, і з засьценкаў бягуць—хто дарогаю, хто пацянькі па сьцежках, па межах, а калі дзе рог нівы дарогу заслоніць, дык от яго абыходзіў!..

Бяда тады, калі ўсе сыйдуцца. У краму ня ўцісьнешся за людзьмі. Стаць няма дзе.

Трэба сказаць, што не ў пашане грошы цяперашнім сьветам. Бывала, зарве дзе хто рубля якога. У самую бліжэйшую да цела кішэню паложыць, каб пачуць, калі хто руку туды паспрабуе засадзіць. Дадому прынясе. Жонцы пакажа. Паглядзяць на яго, пасаймікуюцца ды й у паклаж паложаць.

— На горкую часіну хай ляжыць.

Цяпер ня тое. Другі сьвет пашоў. Падкачае, бывае, другі чалавек на пойле, на аўсе й канюшынавай сечцы гладзенькага жарэбчыка. Зімою навучыць у санях хадзіць. Ды так да Пятра, пакуль падатку ня пісалі, і махне яго па месцы за рублёў паўтараста. Пасьля гэтага толькі й глядзіць, каб на што грошы ўперці, каб яны ня мулялі ў кішэні, бо:

— Каб жа ведаў, што не прападуць, А калі што купіш, дык будзеш мець.

Чорт яго гэтакім людзям тавару набярэцца! Фабрыкі рабіць не спраўляюцца. Гэта-ж у капяраціве...

Мужчын там і ня вельмі шмат. Найбольш відаць галовы ў хустках. Пэўна, з хаты па дзьве, калі ня больш. Яны тамака, дзе карты, паркаль на паліцах. А сама лепш хусткі хапаюць—адна перад аднэю. Усякіх іх навезьлі. Ёсьць ліпскія, турэцкія, скрозь у кветках, сярэс белыя, белыя з берагамі ў гарошак.

Толькі капяраціўшчык здыме з паліцы пастаў, дык і загамоняць. Крычаць:

— Мне дзьве мэтры!

— А мне паўтраці!

— А мне паўшасты!

Цераз галовы тавар бяруць. Гэтак сама й грошы плацяць. Так што, калі голас няспраўны, ці горла завузка, дык зьвесіўшы нос за буфэт, увесь дзень прастоіш і ня возьмеш нічога. Ад упраўнейшых спаражняюцца паліцы.

Далей, у кутку, дзе тавар на боты ляжыць, падковы, сaганы, галёшы, а ўнізе, на зямлі, скрынкі з тытуном стаяць,—

там крыху меншы мужчынскі гурт трэцца. Чакаюць капяраціўшчыка. З гэтага боку памаўчаць-памаўчаць ды й гукаюць, каб ім даў, чаго трэба. Каторыя блізкія, па іменьні яго падклікаюць.

— Сьцёпка! Што ты ўсё з гэтымі бабамі? Ніяк ад іх не адбратаешся. Ішоў-бы нам адважыў чаго.

Далёкім абрыдзела стаяць. Скардзяцца:

— Калі-ж да нас чарга дойдзе?! Ужо ад самай раніцы тут тырчым.

За мужчынскім гуртам на бочцы ад селядцоў, што адзін з паўкілё цягне, сядзіць Лук'ян і наўкола яго гэтакіх самых чалавекі тры рассасульваюць. Пачуўшы, што чалавеку абрыдзела стаяць, яны спагадаць гатовы.

— Хадзі сюды!—падклікаюць.

Зараз знойдзецца паблізу недзе такоўская скрынка, што на бок паставіўшы й сесьці льга. Таму далёкаму чалавеку й гэта добра. Толькі ўсяго скардзіцца, што:

— З голымі рукамі давядзецца дамоў ісьці.

— Рукавіцы адзень, калі ў рукі холаду баішся,—параіць Лук'ян.

Вось за гэта самае, што ня спусьціць нікому слова, Лук'яна завуць капярацыйным сабакам. А яму ад гэтага й ня шум баравы. Кпі з яго колькі хочаш, а ён толькі адно слова дабярэ, ды калі рэкне, то табе й гаварыць ня будзе чаго.

Пасадзіць сабе Лук'ян далёкага чалавека ды й забудзецца пра яго. Курыць захацеў. Ніколі ён залатоўкі ці грыўні на тытун не прапусьціць. Зараз убачыць чалавека, што пачкаў колькі купіў. Адыходзіцца сабе той чалавек ад буфэту. Прыглядаецца:

«Хаця-б не шаспаццаты нумар! Кажуць, сьмярдзючыя гэта карашкі, адно цыб'ё, ані лісту ня прыкрышана».

Цяпер Лук'ян устае з бочкі. Паперка на папяросу ў яго загадзя прырыхтавана —даўгая і шырокая. Падыходзіць з ёю к таму чалавеку.

— А братка! Пасып крыху, а т[…] пера ёсьць, а тытун вышаў. Паку[…] ступішся, а курыць трэба.

Калі-ж на пачку ня рыба намал[…] тады Лук'яну лягчэй зманіць і г[…] ілжэцца.

— Дай, братка, папрабаваць! Г[…] першы раз гэтакі тытун бачу. Трэб[…] піць, дык ці добры...

Не на скупога пападзе, то адп[…] пачак і насыпле, покуль Лук'ян:

— Будзе!

або:

— Годзе!—ня скажа.

Добрую суслу скруціць Лук'ян. [...] словам, ёсьць што ў зубы ўзяць. [...] рыць, колькі трэба чалавеку, а [...] папяросы ссыпле сабе ў мяшэчак [...] запас: сёньня на вечар і заўтра на [...]цу, каб стала.

Вось чаму Лук'ян не прыбытков[…] капярацыі чалавек. Замінае падта[…] кія кірмашовыя дні. Ды й хара[…] абрыдзоны. Толькі й глядзіць, каб на якім слове спаймаць. Каб з каго справіць. Ідзі чаго купіць і асьце[…] ся, каб не папасьціся.

Але-ж ня дзень-у-дзень такі[…] капярацыве. Тавары з гораду пры[…] усяго раз у тыдзень, а то й менш[…] Дык пасьля гэтага здарэньня дзе[…] два, ну-тры, ня болей, у краме [...] Тады калі хто часам і парвецца [...] колы набраць у стары шчарбаты[…] шчок, ці купіць гэтага самага т[…] дык з ім гаворка кароткая: тава[…] грошы ўзяў і йдзі сабе, чалавеча, табе трэба, адкуль ты прышоў.

От у такія часіны й патрэбен Л[…] Прыдзе сабе, раскажа, дзе быў, ш[…] біў, ці дзе чуў што, ці бачыў. А [...] чыць хто, каб купіць якую дрэбя[…] і выбраць патрэбную рэч яму Лук'[…] памагчы суладае.

Дзяўчына ў хустцы пад целяпе[…] вае заблэжыць. Сюды-туды вачым[…] бягае. Ішла сюды—добра ня вед[…]

-го, а прышла—дарэшты забылася. Разглядае, што ёсьць. Што сабе патрабней, прыпамінае.

Тады кажа Лук'ян такім голасам, як-бы перапыненую чужым чалавекам мову зноў пачынае:

— Патом, добрых тавараў гэты раз навезьлі.

— Што-ж там гэткае добрае?—ня ўцерпіць, каб не папытацца, дзяўчына.

— Ці-ж сама ня бачыш? Вунь мыла пахучае, «барскае» што завуць, па паліцы ляжыць. Сама што маладой паненцы патрэбна.

— Хто яго! Я й сінім мылам ні разу не прабавала мыцца, а ня то што «барскім»,—так сьпярша адкажа вёрткая дзяўчына.

Купіць што сваім адумам. Зірне ў вузельчык з грашыма, завязаны ў ражку насоўкі. Расплаціліся, 'шчэ й асталося капеек колькі. На мыла грошай стане.

— Дайце,—кажа,—тое, што ў ружовенькім пачку.

От загэтым Лук'ян і патрэбны для капярацыі чалавек. Дзіву няма, што, як людзей мала, выме капярацыўшчык пачак карашкоў з вялікай скрынкі. Расьпячатуе.

— Куры,—кажа,—Лук'ян!



Запальніліся з абоек

# Васількі

## Юлі Таубін

Я ішоў па плошчах гэтых,
Па праспэктах гарадзкіх,
Ты на стыку ўсім прахожым
Прадавала васількі
Людзі ішлі і праміналі,
Не варочаліся зноў...

Ім нічога не казалі
Зоркі-вочы васількоў,
А адзін дзівак-паэта
Прыпыніўся і сачыў,
Як пялёсткі з тых букетаў
Асыпаліся ўначы.

# СЕНА

## МАКСІМ ЛУЖАНІН

1.

Так, у сонцы, праходзяць дні...

Бо сапраўды добра калі цьвіце ліпа, а вецер дзьме з поля і жане гэты пах у сяло. Тады па дарозе ўздымаецца пыл. Ён уздымаецца і цяпер, але так сабе. Пыл-жа заўсёды ўздымаецца з-пад чалавечых ног. А гэта я іду і мінаю жыта, каб выганам прыйсьці ў лес.

Калі зараз азірнуцца на сяло, дык відны чырвоныя сады. Цяпер многа вішань і яны сьпеючы закрываюць лісьцё. Гэта нагадвае восень з яе цішынёю і нявыразнасьцю мяккіх настрояў. І таму—у сяле яшчэ лепш.

— Што гэта я сягоньня сьніў?—пабягае па сонца шматок воблачнага дыму.

— Ах гэта ізноў быў горад і, па звычайнаму, я кагосьці чакаў. І, чамусьці, у мяне была вострая галава, доўгая шэрая поўсьць і як быццам не хадзіў, а поўзаў на каленях. Поўзаў і ціха выў. Калі-ж прышла яна, я радасны кінуўся на стрэчу. Але белая сукенка спужалася вялікага шэрага сабакі і выцяла мяне чаравічкам у бок. Сам скавытнуў і адбегся. Тады падышла яна сама і ўзяла мяне абедзьвіма рукамі за галаву. Увачавідку вырас у яе хвост, выцягнулася аблічча, яшчэ хвіліна, яна ласкава лізнула мяне каля вуха... Мы пабеглі шпарка, шпарка...

Пасьля быў двор. Трое нашых малых на ім, з чорнымі халоднымі насамі ды белымі лапінамі на баках. Быў там гаспадар. Ён моцна біўся гарапнікам, а есьці даваў нешта незнаёмае і нясмачнае. Калі-ж прышлі чужыя людзі, каб садраць з яе скуру, моцна завыў я з роспачы і прачнуўся.

Поўна! Дзіва што сон такі!

Гэта-ж учора было Івана, а заўчора чэрвень спраўляў купальскую ноч. Я ляжаў хвараваты, адкінуўшы сьвежую газэту, і, няўважліва перачытваў толькі што атрыманы ліст. Потым палажыў яго і глядзеў на кветкі, сабраныя ў полі. Думалася аб усім і чамусьці аб агнёх на беразе, белых нажутках дзяўчат і моцных руках, што хапалі іх з разьбегу ў абдымкі.

Вечар паклікаў ноч і яны разьвіталіся ў мяне ў галавах.

Пачыналася цемень... З ёю лятуценьні.

За выганам, каля самага лесу, сенажаць. Там, пад лёгкаю прахалодаю рэчкі, сушаць сена, а далей берагамі, у жывое люстра глядзяцца хутары.

Я мінаю свае шнуры. Усьміхаюцца знаёмыя твары ў адказ на прывітаньне.

— Ого-у! Ці-ж вы прыехалі?

— Добрыдзень!—кажу другім.

— Здаровенькі! А чаму-ж «памагайбог» ня кажаце?

— Думаў самі ўходзіцеся! Калі хочаце —скажу...

— Няхай будзе! Куды-ж гэта выбраліся?

— От, пайду!

2.

І сапраўды, куды гэта я?

Некалькі маладзіц падграбаюць атрушыны. Гэта сям'я знаёмага хутаранца. Слаўная ў іх гаспадарка! Засталіся ў нас з бежанства і на балоце селі працаваць. Пясчаную гару засадзілі хвойкамі і ў лагу пакапалі канавы і цяпер там растуць агуркі—во-о! Так і засталіся нядзеленыя, вялікаю сям'ёю.

Можна адпачыць?

— Ці няма ў вас вады?

На мяне ўздымаюцца вочы.

— Падай, Верка! пасылаюць кагосьці.

— Піце-ж!

І я паволі прыходжу ў сябе.Аднаю

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Н... 15 000

рукою трымаю пасудзіну, а другою бяру яе руку.

— Добры дзень! кажу, каб схаваць нечаканасьць.

Яна глядзіць кудысьці ў бок. Гэта пачынае цікавіць яе мужа. Ён выходзіць з-за возу і так уважліва глядзіць нас, усьпёршыся на вілкі.

Тады я пачынаю піць. Вада ў біклажцы цёплая і нясмачная і мне ня хочацца глытаць яе, але п'ю доўга, не адрываючыся.

Дзякаваць! я выціраю вусны, аддаючы біклажку.

— А, гэта вы? і каля мяне мужчына.

— Можа не перашкоджу, пасяджу каля вашых коп?

І мы курым тытун у простай паперы, далёка сплёўваючы з ветрам.

— Як-жа ў горадзе?

— Мне тут лепей.

— Ці-ж можна? гаворыць ён. Ён не сказаў бы гэтага, хоць ня мала бывае там. Аднойчы, ён застаўся начаваць і пашоў у кіно. Лавілі злодзея...

Верка глядзіць на нас, абціраючы пот ражком хусткі. Мужчына хутка ўстае. Ён ідзе да возу, лёгка перакідаючы сахор у здаровых руках. Потым кідае яго.

— Верка!

Яны ідуць туды, дзе, пасплятаўшыся ў кусты, растуць сьвідзіна і арэшнік.

— Нядаўна пабраліся! далятаюць словы.

Я прыціскаю твар да рудое пакошы.

3.

Мы зграбаем сена ў валкі. Тры жанчыны і я з маладым хутаранцам. Ён і Верка ідуць далёка сьпераду, толькі часамі чуваць, як рагочуць яны, усьцешаныя адзін з аднаго.

Дома іх цяпер толькі чацьвера. Усе паехалі на балота.

— Васіль! Верка! Агу-у! крычыць Тоня, самая вясёлая сярод нас.

— Не чапайся! гаворыць другая, калі тыя падымаюць галовы. Нядаўна яны палуднавалі і запрасілі мяне. Мы елі сухі хлеб з падпечанаю скарынкаю на кляновых лістох і з аднаго кубка запівалі малаком. Потым я папрасіў граблі. Зьдзівіліся, але далі.

— Чаму-ж дома не працуеце?

— Няма чаго.

І вось мы абграбаем другі воз. Я чапляю Тоніны граблі і яна сьмяецца, нібы злуючы:

— Ціха! на работу больш ня прымем, толькі перашкаджае! Але, як на злосьць, граблі зусім ня слухаюць мяне. Я чапляю імі то аднаго, то другога.

— Ну й работнік! штурхае Тоня мяне ў грудзі. І мы падаем на зямлю, блытаючыся ў крохкім мурагу. Ён патроху напаўзае ў рот.

— Мужу скажу! не падымаючы вачэй абзываецца Верка. Цяпер я гляджу ёй проста ў вочы. Погляду няма, толькі шпарка мігаюцца рукі.

— Няхай!

Мы даграбаем апошнюю капу.

4.

Хутка тыдзень, як я прышоў на гэты хутар. Забыта ўсё як быццам толькі тут заўжды быў, гроб асаку і абрываў вішні на пругменку. А сягоньня па мяне прыходзілі з дому, казалі, што прышлі лісты. Я не пашоў. Пачакаюць.

З ранку было холадна і мы не пашлі на работу. Ішоў дождж. Цяпер Васіль габлюе стаўпцы, а мы сядзім і гаворым аб непатрэбных рэчах. Стукаюцца ў шыбы нудныя мухі ды паціху праходзіць дзень не паглядзеўшы на самога сябе.

— Я пасьцялю табе ў летніку,—гаворыць Тоня працадзіўшы малако.

— Нашто? Я прывык у гумне. Да таго-ж і мурог гэтак слаўна пахне. Зьбіраюся ісьці. Уночы зноў будзе дождж. Хмары камлатыя і шэрыя, а за імі схаваныя бліскавіцы. Сёньня нешта колецца сена і я выходжу трохі пахадзіць па двары. Каля гумна расьце маладая ліпка. Сёлета яна першы раз цьвіце

Кожны вечар пасьля работы цягне прайсьціся ў поле. Там, недалёка дарогі, купчастае і сухое балотца. З яго відзён горад. Нават, можна сесьці і глядзець, як хістаюцца доўгія цені сьвятла. Камяніц ня відаць, але яны адчуваюцца пагэтульку, што могуць душыць сваёю неабходнасьцю Цяперака яны чамусьці вабяць мяне, але каму якая справа да таго, што за тры мілі, на купіне сядзіць чалавек, які нічога ня думае і сумуе няма знаць па чым! І гэты-ж горад так падобен на той, з якога прыехаў я, у якім лавіў тое, чаго няма, шукаў дзікае ўцехі, непатрэбнае роспачы. І ў ім ёсьць сад і музыка, вайсковыя і лаўкі. Ці-ж я ня быў там? Мусіць, таму і здаецца, што ўсё гэта чуваць тут, прынесенае ветрам, які пяйначай вымяркоўваецца дзьмуць з гораду. Абрыўкі жартаў і слоў, прызначаных мне, якія чакаюць мяне, каб узяць за руку, ласкава нахіліцца да вачэй і сказаць: «я сумавала без цябе!»

У яе такое прасторнае сэрца! Так лёгка пайсьці туды. Але хіба ня хочацца мне быць там, дзе месца для мяне мала і адкуль я не пайду не адваяваўшы больш?

Слаўны хутар! Добрыя гаспадары! Толькі ім крыху няёмка са сваім нечаканым памоцнікам.

Верка таксама ходзіць на гэтае балотца. Вось ужо трэці раз страчаю калі мінае яна старыя прысады. Я-ж ня волен нікому перагарадзіць шлях. Можна прайсьці, гледзячы ў другі бок, быццам цікавячыся, ці наліліся каласы.

Горад, горад! Мусіць і сягоньня трэба пайсьці падыхаць воддаль тваім жыцьцём!

Так разважаю.

— Дастань мне ліпы, Алесь,—гаворыць нехта каля мяне.

Павольна я адломваю некалькі кветак.

— Чаму-ж так мала? ціха кажа Верка.—Але-ж усёроўна—я падарую іх табе.

Мне хочацца правесьці на твары рукою, каб упэўніцца, што гэта сапраўды я.

Заўтра мы ізноў пойдзем на сена, гаворыць яна.—Ты рад?

— Мне ўсёроўна.

Трохі сьцепаюцца плечы.

— Але-ж холадна... Табе ня страшна засынаць аднаму ў гэтакую непагадзь?

— Чаго-ж, мне вельмі добра. Сена...

— Сена? Я пагляджу...

І цяжкія дзьверы бязгучна зачыняюцца за намі.

---

На паплавох уздымаецца туман. Хутар ужо далёка.

Ах, як многа расы!

Я іду ў горад.

# Праімчалася, мінула

### З. АСТАПЕНКА

Праімчалася, мінула.
Песьня думку ўскалыхнула
Затуманілі далінай
Успаміны, успаміны.
Залатыя зоры-вочы
Затуманіліся ў ночы...
Ціха думаю—уздыхаю.

Вее вецер, ды з-за гаю,
Ды наносіць песьні-думкі,
Абяцанкі... пацалункі...

---

Прамінула, прапялося.
Колькі песень засталося!..
Засьпяваю песьню тую—
Толькі ночка й зоры чуюць.

...ілоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ Наклад 15 000

# „ВАЙНА“

## СЬЦЯПАН ЛІХАДЗІЕЎСКІ

I.

Кожную вясну карпачоўцы чакалі вайны. Управяцца трохі ў полі, пааруць, ярыну пасеюць—рукі вольныя. Ну ды і пашлі языкі гуляць ды пагульваць. Вось ужо запалкі ў цане падняліся, а солі дык і зусім не падвозяць, а там салдат казаў, што наступленьне ўжо і сапраўды пачалося. «Паваюющь» трохі, няма за што ўчапіцца—змоўкнуць.

А лета раптам зноў вайну прыносіць.

Асабліва бабы трывожацца. Вось і сёньня сабраліся разам дзьве кумы на лузе, Грыпіна з Альжбетаю, сена варочаюць. Скачуць зубы грабель, пакошу прычэсваюць...

А языкі цётак так сьвярбяць, што выказаць няможна.

Нагінаецца станам кума Альжбета праз межу, на граблі апіраючыся, ды гаворыць куме Грыпіне ціхавата, пад сакрэтам:

— Чула?

— А што?

— Няўжо нічога? Ніц ніцам?

— Нічога. А можа што й вельмі?

— Вось каб я з гэтага месца ня сышла, калі ня чула, як сёньня стрэлілі... Вось каб з гэтага... Вайна...

— Няўжо-о-о?!

— Вось каб я з гэтага...—чорны спрацованы кулак некалькі разоў датыкаецца да грудзей:—як стрэлілі, дык пэўна і стрэльба разьляцелася. Думала, хата пылам пойдзе...

— Што ты гаворыш, Альжбетка?! Чаму-ж мы ня чулі?

— Вы, вы... бо вы, мусіць, ня вушамі слухаеце. Клянуся богам, як дало, дык, думала, на месцы мне амін.. Дык я ў хату ды свайго Пархвена з печы за нагу: —Уставай, кажу, каб ты па сьвеце не хадзіў... чуеш—гарматы рвуцца... Ляжыць, хвароба на яго. Пазяхнуў, пачухаўся.

— Чаго ты енчыш, кажа...—А каб ты век енчыў. Гарматы рвуцца, а ён—чаго ты енчыш! А там ужо можа сьвінуха няма разам з парасяткамі. А мае-ж вы дзёдзікі. Ды як загаласшу... Едзь па соль, пакуль ня позна. Намаглася—пацягся...

— Пацягся? А дзякуй-жа табе, што сказала. Пайду, хай і мой цягнецца...

II.

Увесь дзень да Пархвеніхі даведваліся ўпоўнаважаныя. Адны выходзілі, другія прыходзілі.

— Ну, дык як вы, цётка Альжбета, чулі гэтую страляніну?

— Але, чула. Дальбог-жа чула. Каб я з гэтага месца ня сышла, калі ня чула. Вячэраем мы гэта з Пархвенам. Выйдзі, кажу, вароты напач зачыні. Чула маё сэрца нядобрае... Павячэралі мы, прыбрала са стала. Гляджу, аж мой Пархвен ужо і бараду адкінуў: храпе, як пшаніцу прадаўшы. Пахадзіла я трохі, пахадзіла, дый лягла. Скора й заснула...

— Ды ўсё? І больш нічога?

— Не! Не забягай наперад. Лягла я, а сэрца чуе... паляжала, заснула... Паўставалі... Пачалі ўходжвацца. Чуць я саган вадою наліла ды вышла на двор, дык раптам — цётка Альжбета пераводзіць дух—як грукне, як стукне недзе з-пад гумна нашага, дык думала ні мяне, ні мае беднае галоўкі не астанецца.

— Значыцца, перад стрэлам вы саган вадою налілі?

— Наліла... Чуе маё сэрца.

Адны вераць Пархвенісе, другія не.

III.

Пасуць коні.

— Янка-а-а! Адвярні маю жар-о-обку-у-у!

Пятрок Леўчык зноў лажыцца на поплаве, ў грамадзе.

— Дык ты, Пархвен, кажаш, чарвей на ўсё сяло наразводзіў. Гы-гы-гы! Ха-ха-ха! Накупляў солі, а яна і чарвівая. Ха-ха-ха! Гы-гы-гы! Пяць пудоў... Дадзіва, што там чэрві завядуцца.

Канапасы рагочуць.

— Які ты ў мяне разумны, — абараняўся Пархвен:—ты яшчэ мусіць у калысцы лежачы маму лаяў. Ну дык што, як купіў. За твае грошы?

— Ды хто гэта дурны будзе... Грошы на чарвей траціць...

— Добра табе і вайны чакаць,—нападалі па Пархвена:—самому пад пяцьдзесят, баба старая—у салдаты ня возьмуць...

— А яго бабу, мужчыны, у легкавыя не мяшала-б узяць... Эх-бы насілася...

— А што вы думаечэ—гатовы і ваявач,—сумняваўся басам нізкарослы, з сівою барадою, Рыгор Канцавы, не выгаварваючы некаторых гукаў.

— Вунь акопы шалдаты капаюч. Мітру чэлы жагон жыта ждружавалі.

— Ня можа быць?

— Што ня можа быч. А ешлі я шам віджэл.

— Далёка дзе?

— Да тут, недалёка...

— Хлопцы, пасеце коні!—загадаў за ўсіх Пятрок Леўчык:—а мы, мужчыны, хадзем паглядзім, што там за ліха.

Паперадзе ішлі Пятрок Леўчык з Карасём Паўлам, за імі дзед Апупрэй, падперазаны путам па старым вынашаным кажушку, за імі з апушчанымі вачыма Пархвен і яшчэ мужчын з дзесятак.

Па дарозе да іх далучаліся.

— Куды вы?

— Зайцы, кажуць, там недзе пад мяжою енчаць. Концэрты слухаць ідзём!— заўважваў па хаду Леўчык.

Жыта на Мітравай паласе ад дарогі вымакла. На гэтай мясьціне відаць ямачку. Цяпер яе абступіла чалавек з дваццаць.

— Дык гэта тыя акопы. А браткі мае! Дзе-ж тут салдат улезе...—хітра ўсьміхнуўся Леўчык.

— Што джэ: а ешлі рашкапач, дык і ўлежа.

— Тут ні то салдату з вінтоўкаю ўмясьціцца, але й Жуку Анціпаваму будзе цесна—падтрымлівалі з гурту.

— Дзе тут таму Жуку... Сюды і сучкі Гараськавае ня ўціснеш.

— Ну ты, брат, гэта перабраў. Сучка тут зусім лёгка ўвойдзе. Колькі яе, тае сучкі.

— А вот і не!—даводзіў сваю ўпартасьць чалавек, стоячы на сваіх пазыцыях.

— Каб галаву завярнуў назад, а ногі падагнуў, то можа-б і ўлезла.

Разгарэліся спрэчкі. Чалавек, які высоўваў кандыдатуру Жука Анціпавага, зрабіў уступку: сучка няйначай павінна ўмясьціцца.

### IV.

У Пархвенавай хаце паранішняму. Альжбета пячэ бліны, пераказвае «отча наш» і разам з гэтым выкідае звонкія слоўцы на парасят, што труцца ў яе пад нагамі. Пархвен на лаве падшывае хамут. Хата закідана ломам, трэскамі, сьмецьцем, што і прайсьці нельга.

На парозе Грышына.

— Дзіндобры!

— Добрае здароўе!

— Гэта-ж я ў вас соль пазычала. Учора мой прывёз. Казаў, па восемдзесят пуд.

Вестка страсанула нэрвы Пархвеніхі і яна, як стаяла, так і выпаліла:

— А мой дык па 85 заплаціў!..

Узгарэўся маўклівы Пархвен, шпурнуў ён хамут пад лаву.

І пасьля гэтага ўсё-ж была вайна. Ваявалі... Калі не на фронце, дык у хаце Пархвенавай. Ваявалі Пархвен з Пархвеніхай.

Галоўлітбел № 25251. Менск. 2 друк. БДВ Накладу 15 000

# Пра народную песьню

Усев. Шыдлоўскі

Як толькі заблішчыць над лесам сонца і высушыць ліпнёўскую расу, тады ўсё поле ўкрыецца жаночымі постацямі. Блішчаць і пераліваюцца на сонцы назубраныя сярпы, якія раз-по-раз падымаюцца ўгару, каб пакласьці зжатую жменю каласоў на перавясла. З усіх бакоў чуваць доўгія мілагучныя мэлёдыі жніўных песень.

З-пад цёмнае хмаркі
Ціхі сокал вылятае
І здабычу выглядае.
А татачка наш родненькі
Сваіх жнеек шукае:
«Ці жнуць-жа мае жнейкі,
Ці зробяць дажыцкі,
Ці трэба ім даць гарэлкі».

Так пяюць жнеі, калі бачаць, што ідзе гаспадар паглядзець на іх работу, ці проста падзівіцца на свой ураджай.

Большасьць жніўных песень малюе цяжкае становішча жанчыны ў часе жніва, калі ёй няма ні ад кога спагады, і яна вымушана выказаць свой жаль і сваю крыўду дрэвам, кустам, кветкам, а часамі і крыніцы сьцюдзёнай. Але ўсё гэта ня можа ёй паспагадаць... Жаночая крыўда не параніць іх сэрца, і дзяўчына-жняя прыходзіць да перакананьня, што толькі чалавеку можна паскардзіцца і сваім жалем кранунь яго пачуцьці.

Да пайду я к дароге,
Да прыхінуся к бярозе...
Бярозачка—ня мамачка,
Стаіць, шуміць, не гаворыць,
Толькі маё сэрца кроіць.
Да пайду я к лужочку
Да прыхінуся к дубочку.
А дубочак—ня татачка
Стаіць, шуміць, не гамоніць
Толькі маё сэрца кроіць.

Заўжды жняі ад доўгага жніва баліць сярэдзіна, а адпачыць няма як, бо жнеі-суседкі скажуць на яе—і гультай, і няўмека, і як толькі хочаце.... Тады жняя сьпявае пра сваё дзіця, хоць дзіця на полі ў калысцы—пакута.

Жала-б я да вечара—
Баліць мая сярэдзіна.
1) Дзіця.
Можа-б яно заплакала,
Ды села-б я, скалыхнула,
Сярэдзінка-б аддыхнула.

Калі дзяўчына пойдзе замуж, дык часта вельмі шмат папрокаў, а часамі і зьдзекаў церпіць ад свёкра, і ён ужо з маленства малюецца дзяўчыне ненавідным. Затое родны бацька для яе—адзіны збавіцель, і дачка за яго згаджаецца на'т памерці.

Гэткім настроем прасякнуты і жніўныя песьні.

Да пайду я дарогаю,
Пушчу голас дубровою.
Няхай голас галасуе,
Няхай родны татка чуе,
Ля акенца седзячы,
У акенца гледзячы.
«Калі гэта дзіця маё,
Няхай ідзе пагуляе;
Калі гэта нявестачка,
Няхай ідзе пажынае,
К майму полю прывыкае».

Або:

Пара, жнейкі, дамоў пара,
Халодная раса пала,
Халодная, лёдавая...
Сьвёкраткавая лёдавая
А таткава мёдавая.
Сьвёкраткаву таптаць будам,
А таткаву зьбіраць будам.
Сьвёкраткаву пад ножачку,
А таткаву ў ложачку.

Таксама маладой нявестцы дастаецца і ад сьвякрухі, якая не шкадуе яе і часамі прымушае працаваць аб сухім хлебе. Наўзнарок забываецца прынесьці ёй полудню. Пра гэта сьпяваюць у жніўнай песьні:

Ужо на двара вечарэе
Мая мамка вячэрае
Кліча мяне вячэраць.
«Да вячэрай, мая мамка,
А я ўжо вячэрала.
Да сухама хлеб я ела,
Да сьлёзкамі запівала—
Сваю долю праклінала...»

Калі на зямлю пачне спаўзаць вечар, калі балота ўсьцеле туман і калі ночны змрок пачне ахутваць вёску, ідуць тады жнеі дадому і таксама сьпяваюць песьні:

А я з поля дамоў іду,
За поясам сярпок нясу,
А калыбельку за плячамі,
А сьлёзачкі пад вачамі...

Як толькі жнеі ўваходзяць у вёску, дык сьпяваюць:

Гаспадынькі, цяцерачкі,
Ці гатова вячэрачка?
А калі 'шчэ не гатова,
Не начаваць вам дома...

1) Каб у мяне кугакала,

Народныя песьні складаліся ў народзе вякамі. Яны перадаваліся з пакаленьня ў пакаленьне, і ніхто іх не запісваў. У гэтых песьнях народ выказваў усю сваю бяду і гора, усе пакуты жыцьця—працы і беднасьці. Беларуская народная песьня адрозьніваецца ад песень іншых народаў сваёю мілагучнасьцю напеваў і слоў. У іх апроч адвечнай соцыяльнай няволі, адлюстравалася яшчэ адвечная нацыянальная няволя—калі беларус-мужык быў нявольнікам з аднаго боку пана і царскага чыноўніка, з другога боку—ня меў права на сваю культуру. З яго сілком выкаранялі родную мову. Але родную мову і культуру народ захаваў, тварыў яе і ўзбагачаў. Гэтак захавалася, гэтак стварылася і народная песьня—гэтае вялікае беларускае духоўнае багацьце.

Цяпер—новы час—вызваленьне з адвечнага ярма, пераход на новы лад гаспадараньня — творыць новыя рытмы, новыя песьні.

Але трэба прызнацца, што моладзь зусім, можна сказаць, ня ведае народных песень. Новая культурная прыпеўка вельмі часта сярод моладзі саступае мейсца някультурнай «дрындушцы пад гармонь». І нічога ня робіцца ў нас для папулярызацыі культурнай народнай песьні, а гэтаксама для пашырэньня культурных музычных струмантаў—цымбалаў, скрыпкі...

# Вёска патрабуе кніг

## Б. КУПРЭЙСКІ

У вёсцы няма кніг, прынамсі вельмі мала іх ёсьць. Культурная рэволюцыя вымагае, каб кнігі на вёсцы зрабіліся найпатрэбнейшымі рэчамі ў жыцьці. Газэты ў нас, усё-ж такі, параўнаўча лепш пашыраны, як кнігі. Газэта хоць больш-менш сьвежая пападае ў вёску, а кніга бывае—толькі і бывае ў вёсцы тая, якая апынулася некалькі год таму назад і гаворыць гэтая кніга пра разьвёрстку, або пра што-небудзь іншае, што ўстарэла і ўжо ня цікава.

Насьпела патрэба найшпарчэйшага пашырэньня ў вёсцы кніг. І кніг па розных пытаньнях. Бо вялікі недахоп у вёсцы кніг і па сельскай гаспадарцы, і кніг мастацкай літаратуры, і кніг для вясковага тэатру.

Мы стараемся зьнішчыць дарэшты няпісьменнасьць. Хоць гэта робіцца і павальней, як бы трэба было, аднак-жа мы ідзём да таго, што ня будзе ў нас няпісьменных. А тымчасам падрастае і вырасла маладое пакаленьне, якое мы ўжо можам назваць новымі людзьмі, якія і самі імкнуцца да культуры, успрыймаюць яе, будуюць яе—нашу новую савецкую культуру, і павінны несьці гэтую культуру ў адсталыя яшчэ гушчы сялянства. Дык тут патрэбна кніга.

Па сельскай гаспадарцы ў нас выдаецца вельмі мала кніжок. Ды і пападаюць яны ў вёску недастаткова. Выдавецтва кніжок па сельскай гаспадарцы трэба пашырыць.

Цяпер мастацкая літаратура. Тут дык зусім дрэнна. Каб культурная рэволюцыя ня была пустым словам, трэба, побач з усімі іншымі мерапрыемствамі, яшчэ прывучаць вёску да кнігі. А гэта вельмі цяжка, бо кнігі тае няма. Скажам, творы Я. Купалы. Усялякі іх павінен чытаць і ведаць. А цана на гэтыя кнігі такая, што вёсцы іх ня купіць. Гэтак і ўсякія іншыя кнігі. Яны вельмі дарагія. Дзяржаўнае выдавецтва, праўда, выпускае з друку «сялянскую бібліотэку», але, папершае, вельмі мала кніг у гэтай бібліотэцы, а, падругое, у гэтую бібліотэку не пападаюць лепшыя творы нашае літаратуры. Там друкуюцца якія-небудзь дробныя апавяданьні. І выходзіць, што сялянства не заўсёды можа чытаць тую літаратуру, якая зьяўляецца ўзорам нашага друкаванага слова.

Трэба нейкі іншы кірунак узяць у выданьні для вёскі кніг. Трэба, каб для вёскі добрая кніга была танейшаю, як цяпер. Пра недахоп кнігі ў вёсцы, я думаю, скажуць усе вясковыя працаўнікі, вясковая моладзь. Вёсцы трэба больш і лепшых кніг.

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000

# КНІГАПІС

## «Новыя Ўсходы». П'еса ў 6-ці актах А. Ляжневіча

Аўтар імкнуўся паказаць змаганьне новага са старым.

Сьцяпан з жонкай Палутай, іх дзеці: Сымон, Таня і Андрэй з жонкаю—адна сям'я. У іх сямейныя нелады. Андрэй з жонкаю хоча аддзяліцца ад бацькоў, але яму ня хочуць дапамагчы збудаваць хату. Клык Ягор Іванавіч (вясковы багатыр) хоча ўзяць дачку Сьцяпана Таню (ёй 18 год, а яму 33). Адначасова Клык робіць захады ўзяць у арэнду млын, падгаворваючы пайсьці на гэту справу Сьцяпана.

Хутка з гораду прыяжджае Паўло, сын Лявона, вясковага пастуха, і робіцца загадчыкам чытальні.

Справа Клыку не ўдаецца. Таня закахалася ў Паўла. Паўло выкрывае захады Клыка.

Пачынаецца змаганьне Андрэя, Тані, Паўла і Лявона (бацькі яго)—з адчаго боку і Сьцяпана, Сымона, Клыка і Дзюбы—з другога боку.

Упарта, хоць штучна вядзецца змаганьне. Павел гіне ад кулі Сьцяпана, якога падвучвае Клык. Усю «брацію» арыштоўваюць. Сьцяпан прызнаецца ў праступках.

У першым акце Сымон з Андрэем сварацца, а пасьля б'юцца. Іх разьнімае Паўло, што прыехаў на цягніку. Сцэнка надуманая. Уявеце сабе, Паўло добра знаёмы, сябра Сымона і Андрэя, прывітаўшыся з Андрэем, ідзе вітацца да Сымона а той яго хоча біць. Тады Паўло аддае Андрэю шапку, а сам ідзе з кулакамі да Сымона. Жартліва, але не праўдзіва.

Або вось яшчэ малюнак. Паўло, сустрэўшы Таню пры станцыі, жартуючы, хоча пацалаваць яе, а яна вырываецца. На гэту справу находзіць якраз Клык і, убачыўшы «свавольства» Паўла, хоча запісаць яго прозьвішча з прыцягненьнем да адказнасьці. (Які «блюститель» парадку!). Таня сама ня хоча, каб Клык умешаўся ў іх справы—мала што яны пажартавалі.

Улюблёныя моманты ў аўтара — бойкі, штурханьне.

На ўрачыстасьць прыходзіць Лявон, пакінуўшы на полі жывёлу па падпасаў, а Павел яму за гэта вымову робіць. Тады бацька выклікае сына на рукапашную.

Качаюцца па зямлі бацька з сынам, пакуль Лявон вярхом не садзіцца на Паўла і не бярэ перамогі. Што за прыгожасьць! 60-гадовы бацька з 24-гадовым сынам дурэць узьдымалі на вуліцы! Што гледзячы на гэта скажуць? За дурных палічаць, напэўна.

Ці не пара пакінуць выводзіць сялян як нейкіх дурняў.

А то яшчэ:

Паўло з Палутаю барукаюцца!

Вельмі выпукла выведзен, як прыхільнік новага, Лявон са сваімі «увещевательными» прамовамі (бал. 58-59). Такія тыпы ёсьць, але ня так выразна выпукляюцца яны ў вёсцы, як у Ляжневіча.

Усе дзеі паказаны ў такім простым выглядзе, што чытаючы ніяк ня верыцца гэтаму, бо на справе іначай бывае—больш складней.

Ну, хоць бы такі малюнак, як з Дзюбам (сэкратар комсамольскай ячэйкі), які дамагаецца, каб Зося, служанка Клыка (яго дзядзькі) прышла к яму сама на сена ўначы, ды каб яшчэ была здаволена. што ён першы хлапец з ёю!

Або яшчэ: наўрад ці пашоў іграць Лявон на навасельле да Андрэя, калі ён любіў сына Паўла і калі Сьцяпан у гэты час прызнаўся ў забойстве Лявону, як выводзіць Ляжневіч. (Трэба падумаць, ці можа быць гэта—псыхолёгічна).

Ёсьць хібы і ў мове:

«Ты забылася, з кім маеш справу, галазадая» (бал. 39).

П'есу па сваёй увязцы можна скараціць, як гэта і было зроблена пры пастаноўцы ў с. Багушэвічах, дзе два акты выкінулі.

— А ўражаньне тое самае было,—казаў адзін глядач.

І сапраўды, з першага акту відаць, за што будзеісьці змаганьне, шосты (апошні) дае разьвязку, а ў сярэдніх чатырох —разгортваецца змаганьне, якое можна ўкласьці ў два акты, бо вельмі-ж расьцягнена.

Усе дзеі, за выключэньнем чацьвёртае, адбываюцца на падворках, вуліцы, што ўскладняе пастаноўку. Даць такую дэкарацыю на невялікай вясковай сцэне і вясковымі сродкамі—нельга.

Больш уважлівых адносін да выданьня п'ес «Сялянскага тэатру»! Кніжка каштуе аж 80 кап. Гэтая цана для вёскі вельмі высокая.

Ул. Яз—віч.

# Замест паштовае скрынкі

Маладыя аўтары, што прысылаюць свае творы ў рэдакцыю, вельмі мала клапоцяцца пра мову сваіх твораў, пра стыль. Мова і стыль—гэта тыя формы, у якіх падаецца чытачу думка твору. Дык формы гэтыя павінны быць прыгожымі, удасканаленымі. Нямецкая літаратура мае свае адмысловыя формы, яна напісана на нямецкай мове. Расійская літаратура—мае свае формы, яна на расійскай мове. Гэтак сама і украінская літаратура, і японская, і ўсякая іншая. Тое-ж самае—беларуская літаратура. Нашы аўтары павінны клапаціцца, каб іх літаратурныя творы былі літаратурным мастацтвам. Яны павінны пісаць чыстаю беларускаю моваю. І трэба заўсёды вывучаць сваю мову, прыслухоўвацца да народных гутарак. Гэтакі вялікі расійскі мастак слова, як Леў Талстой, усё сваё жыцьцё вывучаў расійскую мову—гэта значыцца, тую мову, якая была для яго роднаю і якою ён пісаў.

Некаторыя нашы аўтары, ведаючы добра літаратурную расійскую мову, калі пішуць свае творы, дык у галаве іх фармулююцца сказы ў расійскай мове і тут-жа, пішучы, яны перакладаюць іх на беларускую мову. Вядома, што стыль гэткага твору ня будзе мець прыгожасьці і сілы, а мова будзе няправільная.

Вось, дзеля прыкладу, сказ з аднаго рукапісу:

«Ноч бязшумна спусьцілася на зямлю... Тысячы зор асьвяціўшы прастор ласкавым мігаючым сьветам і з халодным нямым пытаньнем заглядваюць у душу, у глыбіню істоты, туда, дзе сэрца і нэрвы нова-вагартаваным молатам адчыканіваюць гукі жыцьця».

І яшчэ з таго самага апавяданьня словы і моўныя звароты:

«Вылаў сьнег», «састарэўся», «усё бачыўшай, усё адчуўшай рукой», «шчэлачку», «жалка»...

Калі аўтар піша беларускаю моваю, дык ён трэба, каб ведаў добра народную беларускую мову. Тады яго творы будуць мець беларускія нацыянальныя формы.

Тав. Сталін, гаворачы пра нашу, савецкую літаратуру, вызначыў, што яна павінна быць пролетарскаю ў зьмесьце і, нацыянальнай у форме.

Заўсёды аўтару гавораць: трэба апрацоўваць творы. Гэта значыцца, што аўтар трэба, каб не стараўся толькі абы як выказаць думку свайго твору, або абы як паказаць у творы якіх-небудзь людзей, расказаць пра што-небудзь. А павінен аўтар глядзець на тое, як ён выказвае, як паказвае. Мова твору павінна быць па-мастацку простаю, жывою — гэтакаю, якою яна жыве, а не прыдумліваецца. Адзін аўтар пісаў: «вецер распаўсюджваў пах кветак». Расійскае «распространять» у нас пішуць «распаўсюджваць» («распаўсюджваць газэты», «распаўсюджваць аблігацыі»). У інструкцыі, у пратаколе, нарэшце—у артыкуле, дык гэткая мова яшчэ—паўбяды; але ў мастацкім творы, дык гэта вельмі суха і няпрыгожа. Куды прыгажэй было-б напісаць проста —«пахлі кветкі», або «дзьмуў вецер і пахлі кветкі».

Некаторыя аўтары, захапіўшыся гэткаю моваю і думаючы, што для кніг яна патрэбна, пішуць, напрыклад, «зачыніў вочы», замест «заплюшчыў вочы» і да гэтага падобнае.

Трэба, каб творы пісаліся моваю жывою.

К. Ч.

---

Адказны рэдактар ШУКЕВІЧ-ТРАЦЬЦЯКОЎ

Друкарня газ. «Зьвязда», Менск, Савецкая, 63. Галоўліт № 304

...лоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000